СІТУАЦЫЯ

# «Вертыкальныя» дзівосы,

## альбо Як выконваюць волю прэзідэнта ў глыбінцы...

*Два гады таму ў рэдакцыі адразу некалькіх перыядычных выданняў прыйшлі лісты ад працаўнікоў ТАА “Звянячы” Талачынскага раёна. Людзі скардзіліся на кіраўніцтва гаспадаркі, якое займалася прыпіскамі, урэзваннем заробкаў, іншымі незаконнымі дзеяннямі.*

*Пасля публікацый крытычных артыкулаў многія хібы і парушэнні былі ўрэшце ліквідаваны. Здавалася, з дапамогаю СМІ праўда і справядлівасць перамаглі, парадак наведзены і самы час паставіць кропку у гэтай банальнай гісторыі. Але дзе там!..*

Неўзабаве высветлілася, што кіраўніцтва сельгаспрадпрыемства і не думала саступаць сваім “крыўдзіцелям”. Папросту пачало помсціць людзям. І не ў галаве было начальству, што ўсё яшчэ дзейнічае Закон Рэспублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2011 года №300-З “Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб”. У артыкуле 5 Закона (Гарантыі правоў заяўнікаў) так і сказана: “*Не дапускаць ушчамлення правоў, свабод і (альбо) законных інтарэсаў заяўнікаў, іх прадстаўнікоў, членаў сямей заяўнікаў-грамадзян у сувязі з іх зваротам у арганізацыі, да індывідуальных прадпрымальнікаў”.*

Як толькі вытворчыя хібы больш-менш выправілі, пачалі ціснуць на тых, хто падпісаў ліст-крыўду. Перш-наперш узяліся за ініцыятара пісьма **Аляксея Казырэвіча.** Той якраз ляжаў у бальніцы, а як выйшаў з яе, то быў нямала здзіўлены: яго не дапусцілі на працу, прычым без усялякіх абгрунтаванняў. Спробы дамагчыся хоць бы якога растлумачэння нічога не далі, чалавека папросту не захацелі слухаць. Натуральна, спадар Казырэвіч вымушаны быў звярнуцца да журналістаў. Адзін з іх (карэспандэнт “7 Дзён” Артур Мехціеў) меў нават гутарку са старшынёй Талачынскага райвыканкама. Пасля размовы журналіста з мясцовым “вертыкальшчыкам” Казырэвіча дапусцілі-такі да працы. І зноў падалося, што канфлікт вычарпаны, што можна з палёгкай уздыхнуць. Аднак...

Праз які тыдзень кіраўнік ААТ “Звянячы” **Рудзянок** (не прайшоў зараз пераатэстацыю) піша ўчастковаму інспектару заяву-скаргу на Казырэвіча: быццам апошні 9 красавіка 2010 года без дай прычыны хапаў яго за вопратку, пры гэтым зневажаў ягоную годнасць. І што ж абаронца правоў грамадзян, інспектар Талачынскага РАУС **Ігар Шайтар?..** Канечне, складае пратакол на Казырэвіча, які нібыта ўчыніў адміністрацыйнае правапарушэнне. Яму і не ў галаве, што пры гэтым сам парушае працэсуальныя нормы. Чаму так? А вельмі проста: інспектар нават не захацеў выслухаць довады спадара Казырэвіча ці хоць якія паказанні сведкаў. А варта было б... Ну як той Казырэвіч мог хапаць свайго начальніка за вопратку і зневажаць яго, калі якраз у гэты час праходзіў курс лячэння ў стацыянары Аршанскай бальніцы?.. Неверагодна, але і гэтым разам справядлівасць нібыта ўзяла верх: пастановай суда Талачынскага раёна справа аб адміністрацыйным правапарушэнні ў адносінах да Аляксея Казырэвіча была спынена на падставе п.1 ч.1 арт.9.6 Працэсуальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь у сувязі з адсутнасцю здарэння адміністрацыйнага правапарушэння.

Цікава, што нават прысутныя на працэсе журналісты мелі магчымасць азнаёміцца з пратаколамі апытання сведкаў. І высветлілася, што ў тых пратаколах маюцца шматлікія выпраўленні-падробкі. На ўсялякі выпадак былі зроблены ксеракопіі тых гора-пратаколаў. А яшчэ ў размове з журналістамі адзін са сведкаў — М.Мяснікоў — прызнаўся, што яму пагражаў участковы: маўляў, будзеш звольнены з працы, калі не падпішаш неабходныя паказанні. У беднага сведкі ад страху так дрыжэлі рукі, што за яго подпіс зрабіў сам участковы міліцыянер.

Фальсіфікацыя пратакола была настолькі відавочнай, што па патрабаванні пракурора Талачынскага раёна ўчастковы інспектар быў прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці. А начальніку Талачынскага РАУС **Сяргею Барвянкову** было вынесена афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці здзяйснення паўторнага правапарушэння. Але во дзіўна: неўзабаве стала вядома, што інспектар Шайтар з участковага зрабіўся намеснікам начальніка аддзела правапарадку і прафілактыкі Талачынскага РАУС. Ну і хай сабе падвысілі па службовай лесвіцы — можа, чым добрым вылучыўся ці там яшчэ што... Галоўнае, зноўку можна было ставіць кропку ў гісторыі. Да таго ж на той час дырэктар ААТ “Звянячы” за шматлікія парушэнні не прайшоў атэстацыю і быў адхілены ад пасады. Але гісторыя не скончылася, наадварот, мела свой працяг...

Упраўленнем ведамаснага кантролю Віцебскага аблвыканкама была праведзена рэвізія АТ “Звянячы”. Па яе выніках было ўстаноўлена, што з-за нядбайнага выканання сваіх службовых абавязкаў былым старшынёй кааператыва М.Рудзянком прадпрыемству прычынена шкода ў памеры 27.097.400 рублёў. У эквіваленце і па курсе на той час (красавік 2011 года) гэта блізу 10.000 долараў. Як так атрымалася? А вельмі проста: спадар Рудзянок парушыў патрабаванні якраз працоўнага заканадаўства, уладкоўваючы на працу (адразу на некалькі пасад) спадарыню Лукашэвіч... Такое працаўладкаванне пацягнула залішнія выплаты заработнай платы, вылілася ў вельмі кругленькую суму. Зразумела, акт рэвізіі быў накіраваны ў РАУС Талачынскага раёна для прыцягнення фігурантаў да адказнасці.

І што ў выніку?.. Прайшло паўтара года, а спадарыня Лукашэвіч як працавала на сваім месцы, так і працуе. Грошы кааператыву так і не вернуты... Цікавы момант: жанчына займала адразу 5 пасад, рэгулярна атрымлівала зарплату. Адно незразумела: як можна адначасова ўпраўляцца з работай у пяці месцах — ну проста ўдарніца...

Тым часам месцічы звярнуліся ў Дзяржкантроль, з тым каб справа была даведзена да канца ды ўрэшце парадак быў наведзены, а вінаватыя пакараны. Але з Талачынскага РАУС прыйшло пісьмо, у якім чорным па белым напісана: *“З чэрвеня 2011 года ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў адносінах да Лукашэвіч Р. адмоўлена на падставе арт.29. ч.1 п.2 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь у сувязі з неўстанаўленнем у яе дзеяннях складу якога-небудзь злачынства”.* Пры гэтым матэрыял праверкі (для прад’яўлення адпаведнага іску) накіраваны ў пракуратуру Талачынскага раёна.

Мінуў яшчэ адзін год. Але матэрыяльную шкоду, нанесеную сельгаспрадпрыемству “Звянячы”, так ніхто і не кампенсаваў. Спадарыня Лукашэвіч як займала некалькі пасад, так і займае. Ды яшчэ лічыць сябе пакрыўджанай: маўляў, грошы зарабляю сумленнай працай. Можа, яна і мае рацыю, можа, сапраўды майстрыха на ўсе рукі, але ж груба парушана працоўнае заканадаўства... Значыцца, камусьці вельмі хацелася дагадзіць гэтай жанчыне, нават нягледзячы на тое, што парушаецца закон...

Днямі журналісты (уключаючы аўтара гэтай нататкі) наведалі пракурора Талачынскага раёна Івана Антонавіча Ёдзіса. З размовы выцякала, што справа ўсё ж будзе накіравана ў суд, але іск прад’яўляць не Лукашэвіч, а былому старшыні СВК “Звянячы”, які яе ўсімі праўдамі і няпраўдамі працаўладкоўваў...

Ва ўсёй гэтай гісторыі здзіўляе і наступнае: начальнік Талачынскага РАУС спадар Барвянкоў вельмі ўжо паблажліва ставіцца да, мякка кажучы, неправамерных дзеянняў звянячынскіх начальнікаў, ледзь не схільны іх абараняць... Калі журналіст адной рэспубліканскай газеты (дзяржаўнай, заўважце) звярнуўся да яго з просьбай пракаментаваць канфлікт, той у катэгарычнай форме адмовіўся з ім размаўляць. Тады карэспандэнт нагадаў яму, што варта кіравацца ўсё ж законамі Рэспублікі Беларусь “Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб”, “Аб сродках масавай інфармацыі”... Толькі міліцэйскі начальнік у адказ заявіў, што за сваё зневажанне пасадзіць яго... Але за што такая пагроза?! За тое, што журналіст выконвае сваю работу, кіруецца законамі Рэспублікі Беларусь, Указам Прэзідэнта №65 ад 6 лютага 2009 года “Аб удасканаленні работы дзяржаўных органаў, іншых дзяржаўных арганізацый са сродкамі масавай інфармацыі”?.. Між іншым, якраз ва ўказе сказана: “ У мэтах забеспячэння своечасовага і аб’ектыўнага інфармавання грамадскасці аб падзеях сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця краіны:

1.Устанавіць, што:

1.1.кіраўнікі дзяржаўных органаў і іншых дзяржаўных арганізацый (калі не вызначана іншае, далей — дзяржаўныя органы) нясуць персанальную адказнасць за стан работы са сродкамі масавай інфармацыі *(далей — СМІ)”.*

Ну і гэтак далей... Шкада, што людзі, якія пакліка765 сачыць за выкананнем законаў Рэспублікі Беларусь, самі ж і парушаюць іх.

І яшчэ адзін момант у гэтай працяглай па часе гісторыі, паказальны з пункту гледжання дзейнасці ўсёй так званай “вертыкалі”. Па дадзеным інцыдэнце спадар Казырэвіч падаў скаргу на імя міністра МУС і быў нямала здзіўлены тым, што па яго скарзе на начальніка Талачынскага РАУС прыйшоў разбірацца... участковы. Ды і кажа аўтару скаргі: не магу я, маўляў, супраць свайго начальніка каціць бочку.

У выніку, як можна здагадацца, з МУС прыйшла адпіска: парушэнняў не выяўлена...

Адным словам, наша міліцыя нас беражэ, а яшчэ больш — сама сябе сцеражэ. А яна ж існуе на сродкі падаткаплацельшчыкаў, яна — твар дзяржавы, так бы мовіць... Наколькі ён прывабны — табе, чытач, меркаваць самому.

**Георгій ЧЫГІР.**

*Талачынскі раён.*

УВАГА: КОНКУРС!

# Фіксуем усё, што радуе вока

*Шаноўныя чытачы!*

*Жыццё сучаснага чалавека суправаджаецца фота. Па святах і буднях, у падарожжы і дома — цяпер дзякуючы найноўшай тэхніцы кожны фіксуе ўсё, што радуе вока, што звяртае ўвагу. Але часта таленавітыя здымкі бачаць толькі вашы родныя і сябры...*

*Дасылайце іх у рэдакцыю! Мы адкрываем новую рубрыку — **“Фотаакно”** — менавіта для лепшых чытацкіх фатаграфій. Спадзяёмся на актыўнае супрацоўніцтва. Не забывайцеся падпісваць сваё прозвішча, а таксама месца жыхарства. Напрыканцы года падвядзём вынікі і ўзнагародзім пераможцаў. Нагадваем: наш электронны адрас — **nv@promedia.by**, паштовы — **220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а**.*



**Хутаранка Ніна Маркевіч. Вілейскі раён.**

**Фота Святланы СУХАДОЛЬСКАЙ.**

ЧУЛІ?

## *Адкрыццё адкладваецца*

Тры новыя станцыі першай лініі Мінскага метрапалітэна — “Грушаўка”, “Міхалава” і “Пятроўшчына” — запрацуюць хутчэй за ўсё ў лістападзе.

Будаўнікі прызналіся, што ў верасні (а менавіта на першы месяц восені 2012 года быў прызначаны тэрмін адкрыцця станцый) адбудзецца толькі пробны пуск. Першыя пасажыры з’явяцца на пероне “Грушаўкі”, “Міхалава” і “Пятроўшчыны” хутчэй за ўсё не раней лістапада.

## *На 60 працэнтаў*

РУП “Белпошта” павысіла тарыфы на паслугі паштовай сувязі агульнага карыстання, якія аказваюцца фізічным і юрыдычным асобам.

Падаражэла перасылка пісьмовай карэспандэнцыі ў межах рэспублікі — паштовых картак, пісем і бандэроляў. Тарыфы павышаны на 60 працэнтаў. Так, адправіць адрасату паштовую картку цяпер будзе каштаваць 800 рублёў.

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

## *Следы ведут в Грузию?*

*Сотрудница убитого в Минске грузинского экс-депутата, бизнесмена Бондо Шаликиани утверждает, что его убийство было политическим и следы ведут в Грузию.*

Такое заявление сделала в эфире ОНТ женщина по имени Юлиана. По ее словам, Шаликиани проживал в Минске примерно 3,5 года. Здесь у него был ресторанный бизнес, в планы входило открытие нескольких кафе. Каких-либо криминальных авторитетов рядом с ним она не видела и об угрозах со стороны уголовного мира не знает. “Он был спокойным бизнесменом, никому не переходил дорогу”, — так охарактеризовала убитого женщина.

В разговоре с Юлианой за неделю до своего убийства Шаликиани якобы предупреждал женщину о том, что его могут убить, и просил “довести до нужных органов” политическую подоплеку преступления. Напомним, что Шаликиани считал Саакашвили своим “кровным врагом”, а грузинский президент обвинял его в финансировании оппозиции.

Белорусское следствие в качестве одной из основных версий убийства рассматривает “криминальные разборки преступных группировок иностранных государств”.

МАХЛЯРСТВА

# А ім усё мала...

*Як аказалася, пасля распаду СССР сярод савецкіх ваенных знайшлася велізарная колькасць тых, хто вырашыў скарыстацца сітуацыяй і, сыходзячы ў адстаўку, аформіў пенсіі адразу ў дзвюх дзяржавах — Расіі і Беларусі.*

Следчы камітэт пачаў узбуджаць крымінальныя справы ў дачыненні да ваенных пенсіянераў, якія пасля распаду Савецкага Саюза на працягу ўсіх гэтых гадоў умудраліся адначасова атрымліваць пенсію з боку Расіі і Беларусі.

Да распаду СССР усе ваенныя былі на службе ва Узброеных Сілах Савецкага Саюза. Калі ж з былых рэспублік Саюза пачалі ўтварацца самастойныя дзяржавы, ваенным далі права выбіраць, на службе якой краіне яны застануцца. Як правіла, на тэрыторыі якой дзяржавы ваенны служыў у гэты час, да той краіны яго і “прыпісвалі”. Але многія ваенныя праз год-два пасля распаду СССР і яго Узброеных Сіл сыходзілі на пенсію, а паколькі асноўны тэрмін іх службы прыходзіўся ўсё ж на СССР, пераймальнікам абавязацельстваў якога стала Расія, ім было дадзена права выбіраць, чыю ваенную пенсію атрымліваць — расійскую або іншай дзяржавы, напрыклад, Беларусі. Вельмі многія выбіралі менавіта расійскую ваенную пенсію, паколькі яна была вышэйшая. Атрымаўшы статус расійскага ваеннага пенсіянера, частка ваенных з’язджала жыць у Расію, а частка заставалася ў той дзяржаве, дзе скончылася іх служба.

Знайшлася досыць вялікая колькасць вайскоўцаў, якія вырашылі схітраваць і стаць пенсіянерамі адразу дзвюх дзяржаў. Разлік быў на тое, што ў блытаніне пасля развалу СССР ваенныя ведамствы наўрад ці змогуць разабрацца, хто і колькі ваенных пенсіянераў ўтрымлівае. Так яно і было да апошняга часу. Аднак нядаўна ваенныя ведамствы Расіі і Беларусі зверылі спісы ваенных пенсіянераў і выявілі вялікую колькасць ашуканцаў, якія афармілі пенсію адразу ў дзвюх дзяржавах. Пасля гэтага пачалася карпатлівая аператыўная праца праваахоўных органаў, паколькі ў дзеяннях ваенных відавочна ўгледжваліся прыкметы махлярства. І вось з’явіліся першыя вынікі гэтай дзейнасці.

Так, упраўленнем Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці ўзбуджана крымінальная справа ў дачыненні да грамадзяніна Расіі, жыхара в.Аляксандрава Чавускага раёна. Ваенны пенсіянер пераехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Беларусь і з студзеня 1998 года падманам аформіў пенсію ў Міністэрстве абароны Беларусі, атрымліваючы пры гэтым пенсію ў Мінабароны Расіі. Такім чынам, на працягу 14 гадоў ён атрымліваў пенсію ў дзвюх дзяржавах, незаконна паклаўшы ў сваю кішэнь больш за 64 мільёны рублёў і прычыніўшы на гэтую суму шкоду Міністэрству абароны Беларусі.

Яшчэ адна крымінальная справа ўзбуджана Следчым камітэтам у дачыненні да кіраўніка фермерскай гаспадаркі Брэсцкай вобласці. З жніўня 1993 года ён таксама аформіў ваенную пенсію і ў Мінабароны Беларусі, і ў Мінабароны Расіі. У гэтым выпадку ваенны пенсіянер за 19 гадоў здолеў незаконна пакласці ў сваю кішэню больш за 276 мільёнаў рублёў.

У дачыненні да абодвух ваенных пенсіянераў узбуджаны крымінальныя справы па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч.4 арт.209 Крымінальнага кодэкса Беларусі (махлярства, здзейсненае арганізаванай групай альбо ў адмыслова буйным памеры), санкцыя якой прадугледжвае пакаранне да 10 гадоў пазбаўлення волі.

Праца па выяўленні ваенных пенсіянераў-ашуканцаў, якія атрымліваюць пенсію адразу ў дзвюх дзяржавах, працягваецца.

*“Штодзённік”.*

УЖАС!

## *Отвлеклась на плач ребенка*

### *И убила человека*

Страшная авария произошла в минувшие выходные в Скиделе Гродненского района.

Как сообщили в Госавтоинспекции, при движении в направлении автодороги Минск—Гродно молодая женщина 1992 года рождения на “Рено” выехала на встречную полосу и столкнулась с “Маздой”. Она отвлеклась от управления, когда заплакала дочка. Наверное, ей показалось, что отвлеклась на секунду, но этого хватило, чтобы выехать на встречную полосу. Последовал сильнейший удар. Водитель “Мазды” скончался на месте происшествия. Виновница столкновения, а также ее 10-месячная дочь госпитализированы. Ребенка спасло то, что он находился в детском автокресле, поэтому получил только травмы головы; у его матери — также травмы головы и переломы.

**К СЛОВУ**

## *За три дня на дорогах Беларуси погибли 12 человек*

*За прошедшую пятницу и выходные дни на дорогах Беларуси зарегистрировано 797 дорожно-транспортных происшествий. Совершено 58 ДТП, в которых 12 человек погибли, 59 получили ранения.*

Среди получивших в ДТП смертельные травмы — шесть водителей, три велосипедиста, три пассажира, один пешеход.

За управление транспортными средствами в состоянии опьянения задержано 511 водителей.

ТЭМА ДНЯ

# Цэнавы галоп

*Днямі сустрэў знаёмую пару пенсіянераў — прыехалі з лецішча, каб атрымаць пенсію... Ледзь не плачуць: пайшлі ў аптэку за лекамі і аддалі за самае неабходнае... 845 тысяч рублёў, амаль трэць ад дзвюх пенсій. “І як пражыць на астатняе? — развяла рукамі Зінаіда Іванаўна. — Хіба што зёлкамі лячыць той дыябет ды астатні букет хвароб... І пра што ён сабе думае?..”*

Не варта было перапытваць, каго мела на ўвазе спадарыня Гарбушына. І так усё зразумела...

Усё гэта прыгадалася акурат, як прачытаў статыстычныя даныя па ацэнцы індэкса спажывецкіх цэн па стане на 7 жніўня 2012 года. Выходзіць, індэкс на тавары і платныя паслугі насельніцтву за перыяд з пачатку месяца да сярэдніх цэн ліпеня 2012 г. склаў 101% — усяго нічога... Ну сапраўды, быццам і невялікія падвышэнні.

**Хлеб і хлебабулачныя вырабы — на 3%; гарэлка — на 2,6%; сухія малочныя сумесі для дзіцячага і дыетычнага харчавання — на 1,2%; піва — на 0,9%; каўбаса, кансервы мясныя, пернікі, вермішэль, локшына і соль — на 0,7%; паўфабрыкаты з мяса птушкі, сыркі плаўленыя, мука пшанічная — на 0,5%; мэбля — на 0,8%.**

**Далей — яшчэ болей.**

**Паслугі электразабеспячэння — на 23,7%; сотавай электрасувязі — на 18,4%; чыгуначнага транспарту міжнародных зносін — на 11%; на бытавыя паслугі — на 2,1%.**

У асобку — па кожнай пералічанай пазіцыі — нібыта мізэр, а як агулам — то проста жах. Асабліва калі ўспомніць, што толькі за 20 ліпеньскіх дзён індэкс спажывецкіх цэн падрос на 2,3%...



Канечне, з масавым паступленнем у продаж айчыннай і замежнай пладова-гароднінай прадукцыі кошты на памідоры ды бульбу крышку з’ехалі, але ж гэта заслуга не дзяржавы, а самой Зінаіды Іванаўны, бо ў яе на лецішчы і тая бульба, і тыя памідоры...

У выніку татальнага павышэння цэн пакутуюць не толькі пенсіянеры, стогнуць і ўсе астатнія, хто не пры пагонах і не пры ўладзе. Прыкладам, сярэдняя заработная плата бюджэтнікаў за чэрвень склала 3 мільёны 84 тысячы рублёў, іншых працоўных — 3 мільёны 752 тысячы. У эквіваленце — гэта крыху болей за 400 долараў. Але што значыць “у сярэднім”? Можа, як у тым анекдоце?.. Памятаеце, як старшыня калгаса аб’явіў народу, што сярэдняя зарплата ў ягонай гаспадарцы высокая — ажно сто рублёў. А Мар’я Сцяпанаўна і кажа: мая суседка Агапа — гуляе направа і налева, сквалыга, якіх свет не бачыў, то выходзіць, што і я — у сярэднім — гулёна і прайдзісветка?.. Гэтак і тут: на аўтамабільным і трактарным заводах зарплата 6—7 мільёнаў, па краіне — палавіна з таго, а на вёсцы — яшчэ меней... І потым, сам Лукашэнка сказаў, што 500 долараў — гэта не грошы... Тут ён мае рацыю, бо паўтысячы “зялёных” — гэта толькі каб неяк выжыць, а не жыць панармальнаму. Але ж і тыя 500 “баксаў” — яшчэ толькі ў мроях начальніцкіх галоў. Яны ўсё баюць, што за межамі “сінявокай” цэны на прадукты яшчэ больш “куслівыя”, чымся тут, што паслугі медыцынскія недаступныя, што кватэрная плата завоблачная... Але забываюць казаць, якія заробкі ў тых жа палякаў, літоўцаў і нават у расіян... А цэны на прадукты харчавання за бугром практычна гэткія ж, як і ў Беларусі. Хто насамрэч у шакаладзе-мармеладзе, а хто ў накладзе — вядома кожнаму. Вось толькі палёгкі ад гэтага няма — ні Зінаідзе Іванаўне, ні гэткім жа іншым людзям...

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

## *Ведалі б французы!..*

Наколькі далёкія ўлады ад праблем народа, сведчыць сітуацыя ў вёсцы Студзёнка на Барысаўшчыне.

Увосень на Барысаўшчыне ў месцах, якія маюць гістарычнае значэнне ў сувязі з вайной 1812 года, плануецца правесці грандыёзныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да 200-годдзя тых памятных падзей. Пройдуць яны і ў вёсцы Студзёнка, дзе 200 гадоў таму напалеонаўскія войскі пераправіліся праз Бярэзіну. У Студзёнцы плануюць правесці мітынг-рэквіем, мяркуецца, што прыедуць госці з Францыі, паведаміла газета “Мінская праўда”.

Як расказала газеце намеснік старшыні Барысаўскага райвыканкама Валянціна Шутко, у рэгіёне намячаецца правесці шэраг розных мерапрыемстваў, у тым ліку падрыхтоўку тэрыторыі пад рэканструкцыю бітвы на Брылёўскім полі, распрацоўку інфармацыйных стэндаў, добраўпарадкаваць тэрыторыю, адрамантаваць памятныя знакі ў вёсцы Студзёнка і на Брылёўскім полі.

Праўда, жыхароў Студзёнкі рамонт памятнага знака хвалюе мала. Справа ў тым, што на працягу многіх гадоў тут існуе праблема з водазабеспячэннем. “Спадзяваліся, што ў сувязі з круглай датай на гэтую праблему ўлады ўсё ж звернуць увагу, — распавядаюць мясцовыя жыхары. — У вёсцы з адной калонкі вада ледзь цячэ, другая калонка не працуе зусім. Тыя, хто працуе ў Барысаве, каністрамі возяць з горада ваду. У калодзежы вады амаль няма, ды і тая, што засталася, з-за спякоты пратухла. Да нашай шматгадовай “засухі”, як мы пераканаліся, уладам справы няма, у іх святочныя мерапрыемствы ў галаве... Ведалі б тыя французскія госці, якія сюды прыедуць, у якім каменным веку знаходзіцца гістарычная вёска!” — паведамляе партал рэгіянальных навін “Ex-press”.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
14 ЖНІЎНЯ 2012 г.

ПАЗІЦЫЯ

# Хто растаптаў сімвалы?



19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання дзвюма трэцямі галасоў зацвердзіў сімвалы новай суверэннай дзяржавы, якая была адроджана 25 жніўня 1991 года, калі Дэкларацыя аб незалежнасці, абвешчаная 27 ліпеня 1990 года, набыла статус часовай канстытуцыі.

Добра помніцца, як у газеце "Звязда" ад 18 сакавіка 1995 года быў надрукаваны зварот групы артадаксальных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (у асноўным камуністаў і ветэранаў) да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з просьбай ініцыіраваць правядзенне Рэспубліканскага рэферэндуму аб адносінах насельніцтва да афіцыйнай сімволікі Рэспублікі Беларусь. Дэпутаты пісалі, што на месцах ім ад выбаршчыкаў паступалі негатыўныя водгукі аб дзяржаўнай сімволіцы, прынятай Вярхоўным Саветам 19 верасня 1991 года. Можна паверыць, што такія водгукі паступалі ад "заўсёды ўчарашніх", але наўрад ці ад простых рабочых і калгаснікаў, многія з якіх мала што ведалі аб гісторыі дзяржаўнай сімволікі, а то і зусім нічога не ведалі, таму што ніколі ў школе і іншых навучальных установах сімволіку спецыяльна не вывучалі. Аўтары звароту да прэзідэнта пісалі, што герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг былі зацверджаны 27 ліпеня 1942 года гітлераўскім намеснікам — гаўляйтэрам В.Кубэ для стваранай акупантамі марыянетачнай Беларускай цэнтральнай рады. Недасведчаныя чытачы, якія не ведалі гісторыі гэтых сімвалаў, маглі падумаць, што яны з'явіліся ўпершыню менавіта ў 1942 годзе. Але ж гісторыя "Пагоні" і бел-чырвона-белага сцяга багатая і даўняя. Паводле аднаго летапісу, Вялікі князь Віцень у 1296 годзе прыдумаў сабе герб і ўсяму Вялікаму Княству Літоўскаму пячатку: "рыцар збройны на кані з мячом, якога называюць Пагоня".

У другім летапісе стварэнне герба "Пагоня" прыпісваецца князю Нарымунту і растлумачваецца, што герб азначае сталага правіцеля, які можа абараніць сваю Бацькаўшчыну. Гэта — "муж збройны на коне белом в полю червоном". Тут знамянальна спалучэнне ў сімвале двух колераў — белага і чырвонага, што потым стала характэрным для беларускага нацыянальнага сцяга. Спачатку "Пагоня" была асабістай эмблемай князя, з цягам часу стала гербам дынастыі і затым дзяржавы. За дзяржаўны герб Вялікага Княства Літоўскага "Пагоня" прынята ў 1384 годзе.

Дэпутаты-артадоксы адзначылі, што пад гербам "Пагоня" і бел-чырвона-белым сцягам прыслужнікі фашысцкіх акупантаў рэпрэсавалі і вешалі змагароў за вызваленне Беларусі. Але ці вінаваты тут самі сімвалы? Напэўна, у Літве, Латвіі, Эстоніі прыслужнікі фашыстаў таксама скарыстоўвалі нацыянальную сімволіку гэтых краін, але ж народы дзяржаў Балтыі не адмовіліся па гэтай прычыне ад сваіх гербаў і сцягоў. Наадварот, яны шануюць і ганарацца сваёй дзяржаўнай сімволікай. Толькі ў Беларусі дазвалялася беспакарана ненавідзець і зневажаць усё нацыянальнае.

Узнікае і такое пытанне. Пад чырвоным савецкім сцягам і гербам сталіністы знішчылі дзясяткі мільёнаў нявінных людзей. У газеце "Аргументы и факты" №13 (494) за 1990 год быў змешчаны артыкул "Три цифры" аб чалавечых ахвярах у СССР з 1917-га па 1959 год. Па падліках Куранава, агульныя страты насельніцтва СССР складаюць 110,7 мільёна чалавек, у тым ліку страты, звязаныя з вайной, — 44 мільёны чалавек (40%), а ў неваенны (мірны) час рэвалюцыі і рэвалюцыйных пераўтварэнняў народы СССР страцілі 66.700.000 чалавек. Вось яна, цана бяздумных эксперыментаў бальшавіцкай улады. Знішчыць амаль 111 мільёнаў чалавек — ці ж гэта не генацыд? Курапаты зараз вядомы ўсяму свету. А колькі ж соцень ці тысяч такіх вядомых і невядомых Курапатаў на ўсёй вялізнай тэрыторыі былога СССР? Усе гэтыя злачынствы зроблены пад чырвоным рэвалюцыйным сцягам і савецкім гербам. Дык ці можна нам адмаўляцца ад "Пагоні" і бел-чырвона-белага сцяга, спрадвечных беларускіх сімвалаў?

Яшчэ цытата са звароту тых прабальшавіцкіх дэпутатаў: "З улікам таго, што Беларусь з'яўляецца суверэннай дзяржавай, не да твару ёй пераймаць герб і сцяг няхай і дружалюбнай, але іншай суверэннай краіны — Літвы, якія былі зацверджаны парламентам намнога раней за нашу рэспубліку". Дарэчы, у Літве не бел-чырвона-белы сцяг. А тое, што ў нас з Літвой амаль аднолькавы герб "Пагоня", гэта гаворыць толькі аб тым, што і Літва, і Беларусь былі ў складзе адзінай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. Мне здаецца, што і Украіна, землі якой таксама ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, магла б узяць для сваёй дзяржавы герб "Пагоня". Нічога кепскага ад гэтага не было б.

Цікава і тое, што артадаксальныя дэпутаты не выступалі супраць расійскага герба і сцяга, якія раней былі сімваламі царскага самаўладдзя. Толькі "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг ім заміналі, не давалі спакойна жыць.

Я думаю, што дэпутаты дарэмна ўпарта змагаліся з беларускай нацыянальнай сімволікай. У іх хапала спраў больш сур'ёзных і важных: эканамічны крызіс, абвальнае збядненне людзей, пустыя паліцы ў магазінах, асабліва на вёсцы, няспынны рост цэн на ўсе тавары...

Пачынаць рэформы ў краіне трэба з вяртання сваіх спрадвечных нацыянальных сімвалаў — "Пагоні" і бел-чырвона-белага сцяга, з увядзення новых грошай — талера, і трэба спяшацца, інакш Расія ўвядзе ў нас свой рубель і праглыне Беларусь без астатку, як нядаўна заўважыў былы кіраўнік урада Беларусі Вячаслаў Францавіч Кебіч. Думаю, "Народнай Волі" трэба нагадаць чытачам, чыімі канкрэтна рукамі быў зроблены разварот Беларусі ў мінулае. Надрукаваць прозвішчы тых, хто адмовіўся ад нацыянальных святынь. Каб гісторыя помніла...

**Кліменцій КОЖАН.**

*в.Германавічы*
*Шаркоўшчынскага раёна.*

ТАК ДУМАЮ!

## *Уладу на штыках не ўтрымаць*

Купіў камп'ютар і цяпер кожны вечар заходжу то на адзін сайт, то на другі. А бывае, што за пару гадзін зраблю агляд ледзь не ўсіх беларускіх парталаў, якія спецыялізуюцца на грамадска-палітычных навінах.

У апошнія дні цікавіўся вестками з Алімпіяды. Але больш за ўсё мяне ўразіла паведамленне пра тое, што Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз сёлета падняў заробак сілавікам. Калі гэта так, то тут ёсць над чым задумацца. Па-першае, няўжо з няўмольным ростам цэн пагоннікам стала жыць горш, чым усім астатнім? Па-другое, ці не звязана гэта з парламенцкімі выбарамі, якія могуць ускалыхнуць сітуацыю ў краіне?

Я скажу так: з дапамогай штыкоў можна часова дабіцца жаданых вынікаў, але на іх доўга ўладу не ўтрымаць. Таму няма сэнсу падкупаць сілавікоў, лепей падумаць пра бедных пенсіянераў.

**Іван САМОЙЛАЎ,**
**інжынер.**

З ПІСЬМА...

## *Хто зацікаўлены ў чэргах?*

...Сапраўды, хто зацікаўлены ў чэргах на мяжы? Нашы суседзі — літоўцы, палякі, латышы, украінцы? Чыноўнікі Еўрасаюза? Ці беларускія ўлады, якія хочуць трымаць людзей за жалезнай заслонай?

У любым выпадку праблема вострая, і яе трэба тэрмінова вырашаць. Людзі — не жывёліны, якіх можна трымаць у загоне да непрытомнасці.

**Галіна**
**КУПРЫЯНАВА.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Знай, народ, хто «сексот»

**Былы кіраўнік выбарчага штаба Мікалая Статкевіча Сяргей Марцалеў прапанаваў апазіцыянерам прайсці праверку на дэтэктарах хлусні: маўляў, такім чынам можна выявіць, хто супрацоўнічае са спецслужбамі.**

*У дэмакратаў мала згоды,*
*І што ні сходка, то раздрай.*
*Няпросты выбар для народа,*
*Хоць абяцае кожны рай.*
*І кожны б'е адчайна ў грудзі,*
*Перад амбонам акурат:*
*— Павер, народ, паверце, людзі,*
*Што я — сапраўдны дэмакрат!*
*Гатовы я пайсці за краты,*
*Каб звергнуць сённяшні рэжым,*
*А іншыя — не дэмакраты,*
*Гаворыць голасам чужым.*
*Яны спецслужбаў маюць "ксівы"*
*І ўсіх "закладваюць" тайком,*
*Або гатовыя Расіі*
*Прадаць Радзіму — родны дом.*
*У рэшце рэшт абрыдлі свары,*
*Запал "пагрызціся" патух,*
*Бо не напісана ж на твары,*
*Што хтось прадаўся за панюх.*
*Каб зняць адразу ўсе праблемы,*
*Каб "пляцкаць" не было прычын,*
*Няхай так званыя нацдэмы*
*Праверку пройдуць як адзін.*
*Хай сведчыць самы нехлямяжы,*
*Што са спецслужбамі — ні-ні!*
*І не на словах хай дакажа,*
*А на дэтэктары хлусні.*
*Не правядзеш прыборчык гэты,*
*І будзе ведаць наш народ,*
*Хто сапраўды "нацдэм адпеты",*
*Хто насамрэч "стукач-сексот".*
*На кожным — правады, як збруя,*
*Хоць некаму і неўспадоб.*
*Той, хто дэтэктарам кіруе,*
*Не задае пытанні ў лоб.*
*Размовы з "зацугляным" людам*
*Распачынае ён здалёк*
*І сочыць: шчыры ці аблуда?*
*Як зрэагуе чыйсьці клёк?*
*Пытанні колюць дэмакратаў,*
*Нібы асенняе асцё.*
*Дэтэктар, мовіць так, пакратаў*
*Усё іх тайнае жыццё.*
*Адзін крычаў калісь:*
*— Я гранты*
*Вазіў для нашанскіх праграм!*
*(Самрэч купляў для жонкі транты,*
*І шыкаваў за гранты сам.)*
*Другі крычаў з трыбуны словы:*
*— Мне неўспадоб тутэйшы ўрад!*
*(Выходзіць жа, што сам гатовы*
*Міністрам стаць і будзе рад.)*
*Сябрам заўжды даводзіў трэці:*
*— Я з жонкай цэлае адно!*
*(А да яго "прыносяць чэрці"*
*Трох палюбоўніцаў ажно.)*
*Чацвёрты скардзіўся без меры:*
*— Няма ў мяне свайго жытла*
*(А дочкам аж па дзве кватэры*
*Рука бацькоўская дала).*
*На сходках пераконваў пяты:*
*— Гарачыя дзянькі мае!*
*Пішу, працую, як пракляты*
*(А сам віно на дачы п'е).*
*Услед за імі шосты, сёмы...*
*У кожнага — "двайное дно",*
*"Шкілет у шафе" невядомы,*
*Які таіўся там даўно.*
*Затым дзясяты быў і соты —*
*Іх паспрабуй пералічы...*
*Знайшліся, ведама ж, "сексоты"*
*І, безумоўна, "стукачы".*
*Затым праз тэле і газеты*
*Народу вынеслі на суд*
*І "кампрамат" так званы гэты,*
*І тайны блуд,*
*І проста бруд...*
*І думалі: народ цяперка*
*Іх, дэмакратаў, пракляне,*
*Бо паказала ўсім праверка:*
*Яны — заганныя... Аж не!*
*Паўсюль выказваліся людзі,*
*Пачуўшы гэты "кампрамат":*
*— Хіба ж мы ўсе жывём не ў блудзе?*
*У нас таксама хібаў шмат.*
*Не заракаюцца ніколі*
*Ні ад сумы, ні ад турмы,*
*Гарэлку п'юць, калі на волі...*
*А значыць, гэткія ж, як мы!*
*Як на далоні дэмакраты,*
*Цяпер іх знаем навылёт!*

* * *

*І талакою ў дэпутаты*
*Іх, як сваіх, абраў народ.*

ОТКЛИК

## *Что же мы построили?*

Я прочитал опубликованную в газете "Народная Воля" 27 июля 2012 года статью Светланы Калинкиной "Конь в сенате". В этой статье говорится о неприглядном нравственном и политическом облике большинства депутатов нынешнего парламента Беларуси, о лживости разглагольствований многих высших государственных чиновников об их так называемой "великой заботе" о состоянии здоровья рядовых граждан Беларуси, о происходящем сейчас под руководством президента очень существенном "улучшении" материального положения почти всех белорусов и белорусок.

Это ужасно! Старому, больному человеку государство отжалело один памперс на трое суток. А для зарплат высшим чиновникам, для строительства хоккейных дворцов, для обеспечения множества охранников президента огромные суммы денег у государства имеются всегда. Такова действительная обстановка в нынешней Беларуси. Капиталистической Беларуси. Подчеркиваю: под разговоры о заботе о простом человеке мы построили капитализм в самом худшем смысле этого слова.

**Сергей Федорович**
**БОРИСОВ,**
**геолог.**

***P.S.*** *Я искренне желаю героическому коллективу редакции "Народной Воли" всего самого лучшего! И главное — не бояться поднимать темы, которые "болят" простому человеку, но не "болят" государству.*

РЭХА

## Ён пазнаёміў шведаў з творчасцю Васіля Быкава

Калі мой калега даведаўся пра шведскі "плюшавы дэсант" над Івянцом і Мінскам, ён сумна заключыў: для шведскага амбасадара ў Беларусі гэта дабром не скончыцца. Так яно і адбылося. Стэфана Эрыксана ў адзін момант зрабілі ворагам беларусаў. Яго абвінавацілі ў тым, што ён не спрыяў росквіту шведска-беларускіх эканамічных сувязяў. У тым, што "в шведском посольстве экстремисты инструктировались, как организовывать массовые беспорядки, погромы на улицах, как нападать на милицию, готовить провокации против обычных белорусских граждан". Нарэшце, ведайце, беларускія грамадзяне: "До сих пор не ясна степень возможности участия как С.Эриксона, так и шведского руководства в организации провокации с нарушением границ Беларуси легкомоторным самолетом, управляемым гражданами Швеции. Вполне возможно, что у властей Беларуси есть более полные данные на этот счет". (Цытуецца па матэрыялах сайта belarus-tv, 3 жніўня, рубрыка "Грамадства".)

А ці ведаюць тыя, каму трэба, што Эрыксан яшчэ на пачатку дзейнасці ў Сінявокай выкарыстоўваў у сваіх мэтах плюшавых таптыгіных? Гэта ж з яго падачы ў 2007 г. дубліравалі на беларускую мову шведскую кінастужку "Калядная казка", у якой маленькая дзяўчынка губляла ў метро не якога-небудзь анучнага цуцыка, а дэструктыўнага мядзведзіка. Што гэта, як не візуальны знак блогеру Антону Сурапіну?

Калі пакінуць іронію, то справа Стэфана Эрыксана зусім празрыстая. Ён калоў вочы сваім выбарам прыярытэтаў і прыхільнасцю да сапраўднай нацыянальнай культуры. На ўсіх афіцыйных мерапрыемствах ужываў толькі беларускую мову. Калі на цырымоніі закрыцця кінафестывалю "Лістапад" у 2006 г. ён падняўся на сцэну і загаварыў на мове краіны знаходжання, тагачасны намеснік прэм'ер-міністра Аляксандр Косінец нават страпянуўся і быццам апраўдаўся: "Я таксама магу гаварыць па-беларуску!" Думаю, побач з шведскім амбасадарам не адзін чыноўнік адчуваў сябе няўтульна.

У дзейнасці Стэфана Эрыксана, якая пачалася, здаецца, у сярэдзіне "нулявых", калі ён быў яшчэ кіраўніком аддзялення амбасады Швецыі ў Мінску, адчуваўся моцны гуманістычны пачатак. Меў ён справу як з дзяржаўнымі ўстановамі, так і з незалежнымі носьбітамі мастацтва, але на першае месца ставіў талент і якасць твора. Пазнаёміў шведаў з творчасцю Васіля Быкава. Дні культуры Швецыі, якія старанна арганізоўваў у нас спадар Эрыксан амаль штогод (апошні раз у 2011 г.), уключалі не толькі адборныя музычныя гурты і калектывы, фільмы, паэтычныя і празаічныя творы сваёй краіны. У іх прысутнічаў, так бы мовіць, наш нацыянальны акцэнт. Напрыклад, гэта былі беларуска-шведскія літаратурныя чытанні з удзелам філосафа-пісьменніка Валянціна Акудовіча, паэтаў Андрэя Хадановіча, Марыйкі Мартысевіч і іншых вядомых літаратараў. Запомнілася сумесная выстава сучаснай карыкатуры, былі выступленні камернага хору Святога Юханэса (Швецыя) і сталічнага хору "Concordia" (Мінск). Маршруты гэтых Дзён мастацтва пралягалі ў Брэст, Полацк, Салігорск, Пінск, Віцебск. Многа чаго бачылі мінчане: і фільмы Бергмана, і стужкі сучасных шведскіх кінамайстроў з цудоўным перакладам на беларускую мову. Успамінаю фільм "Як на нябёсах" Кая Полака, які атрымаў на "Лістападзе-2006" ажно чатыры прызы (у тым ліку "Срэбра" ад сталічных гледачоў), і думаю, што Стэфан Эрыксан — з той жа кагорты, што і герой стужкі. Яе сюжэтная канва: музыкант Дэніел Дарыюс прыехаў у мястэчка, дзе панавалі нуда, абыякавасць да ўсяго, нелюбоў адзін да аднаго; заняткамі пеўчым мастацтва і душэўнай самаадданасцю немалады Дэніел удыхнуў жыццёвую энергію ў людзей. Яны эмацыянальна ўзбагаціліся, сталі больш востра ўспрымаць несправядлівасць і ўласную недасканаласць. Сучасная гісторыя Пігмаліёна.

Спадар Эрыксан, шлю паклон з маёй няўдзячнай краіны за Вашу плённую культурную місію і Вашу самаадданасць. Вы пакінулі вельмі добры след у асяроддзі чытачоў, гледачоў і слухачоў.

Лічыце напісанае маімі паказаннямі як сведкі.

**Ала БАБКОВА,**
**кінакрытык.**

ШЧЫРА

## *Нізкі бацькоўскі паклон...*

Паважаная "Народная Воля"!

Хачу выказаць праз газету шчырую бацькоўскую падзяку Святлане Калінкінай за артыкул "Дзякуй табе, Дзіма!" і Нілу Гілевічу за верш, які прысвечаны Зміцеру Дашкевічу, — усяго 10 радкоў, але ж якія ёмкія!

З павагай і нізкім бацькоўскім паклонам вам, шаноўныя!

**Вячаслаў ДАШКЕВІЧ,**
**бацька**
**двойчы палітвязня**
**Зміцера Дашкевіча.**



ВАС ЦІКАВІЦЬ...

***Прачытала вялікі матэрыял пра Галіну Сямдзянаву. Добрую задумку рэалізуе "Народная Воля". Цікава, пра каго з ранейшых паплечнікаў Зянона Пазьняка раскажа газета ў бліжэйшы час?***

**Таццяна**
**АБЛАМЕЙКА.**

## *Наступная публікацыя — пра Ігара Германчука*

Рэдакцыю "Народнай Волі", як і Вас, спадарыня Таццяна, цікавіць лёс многіх з тых, хто ў 1990—1995 гадах змагаўся за дэмакратычную Беларусь, хто закладваў падмурак яе незалежнасці. Вядома ж, падрыхтоўка такіх матэрыялаў, як пра Галіну Сямдзянаву, звязана з пэўнымі цяжкасцямі. Але ж прынята цвёрдае рашэнне працягваць серыю падобных публікацый. Наступная будзе пра Ігара Германчука.

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

## *Дыма без огня не бывает*

7 августа с.г. в "Народной Воле" была напечатана заметка жителя Минска Л.А.Ходана "Легче всего повесить объявление...". Леонид Александрович возмущался тем, что *"с 16 июля сего года отделения связи №120 по ул.Казинца, №64 по ул.Ландера и №108 по ул.Корженевского работают очень странно",* то есть по измененному графику. Взяться за перо его якобы подтолкнуло то, что в дни коммунальных платежей людям порой приходится стоять подолгу в очередях. Более того, в один из дней, не дождавшись доставки газеты, он вынужден был сам отправиться за ней на почту.

Письмо в газету Л.Ходана вызвало бурную реакцию со стороны некоторых руководящих лиц вышеназванных почтовых отделений. Несколько дней понадобилось редакции для детального прояснения ситуации. Что можно сказать? Дыма без огня не бывает. Как бы там ни было, но повод для отправления письма в газету у того же Л.А.Ходана имелся, о чем уже частично сказано выше. Другое дело, что он, образно говоря, смешал все в одну кучу. Читая его заметку, можно подумать, что все отделения, пусть даже временно, но сменили распорядок работы "под общую копирку". Нет, одно, например №120, объявило о том, что в субботу из-за нехватки кадров не будет работать, в то время как почтовое отделение №64 было по-прежнему открыто и в субботу. Не вводился дополнительный выходной и в отделении №108.

Смешал автор в одну кучу и информацию о часах работы почтовых отделений. Сокращался рабочий день в отделениях №№120 и 64, но оставался прежним в отделении №108.

Понятно, редакция приносит извинения за некоторую путаницу, допущенную автором публикации, но в то же время нельзя не заметить, что у него также есть основания. Как налогоплательщик он имеет право требовать от государственных учреждений (а почтовые отделения относятся именно к таким) высококачественного обслуживания клиентов. В дни коммунальных платежей действительно бывают очереди. А это значит: люди теряют много времени, нервничают, что, случается, приводит к конфликтам. Проблема, которая, несомненно, требует решения. И здесь свое слово должны сказать руководители более высоких учреждений, чем почтовые отделения.

Из трех перечисленных почтовых отделений только №108 занимается доставкой периодики подписчикам. Безусловно, высокая нагрузка приводит к сбоям, из-за которых и случается, что человек несвоевременно получает газету или журнал. Есть и некоторые другие проблемы, решения которых требует жизнь. Но нашему автору, повторяем, не нужно было смешивать все в одну кучу.

**Редакция газеты**
**"Народная Воля".**

## *Няхай і надалей рэжа праўду-матку*

Выказваю ўдзячнасць, і не толькі ад сябе, але і ад сваіх сяброў, журналістцы Святлане Калінкінай за яе абарону пакрыўджаных лукашэнкаўскай уладай беларусаў. Нядаўна яна раскрытыкавала дэпутатаў так званай Палаты прадстаўнікоў у артыкуле "Конь в сенате" — за іх абыякавасць да ляжачых хворых, якія з-за няхваткі памперсаў, можна сказаць, гніюць у ложку. А гэтыя дэпутаты (па прафесіі ўрачы) баяцца падаць свой голас, каб хаця б не ўгнявіць найвышэйшага начальніка.

Нізкі мой паклон Святлане Калінкінай, і хай Бог беражэ яе ад ворагаў! Здароўя ёй і шчасця жадаю. Няхай і надалей рэжа праўду-матку.

**Міхась КРЫЛОВІЧ, жыхар Мінска.**

У НУМАР!

## Убухалі мільярды, ды не ў тое...

Учора рэдакцыйны парог пераступіла ўжо немаладая жанчына. Прадставілася:

— Марозава Ганна Пятроўна, чытачка "Народнай Волі" з першага нумара.

— Што вас прывяло да нас?

— А вось была тут побач з вамі па справах, думаю: зайду і выкажу ўсё, што на душы...

— І што ж хвалюе?

— Ведаеце, тыя мільярды, якія ўбухалі ў падрыхтоўку да Алімпіяды, і ўсё, як кажуць, кату пад хвост...

— Як жа, 13 медалёў прывезлі... (*Яшчэ не было інфармацыі, што аднаго медаля мы пазбаўлены.* — **Рэд.**)

— А якую лічбу называў Лукашэнка напярэдадні?

— Спорт ёсць спорт: адзін выйграе, другі прайграе.

— Яно так, але ж ці трэба было столькі грошай убухваць у спорт? Паглядзіце, сёння не кожная сям'я можа ўзяць крэдыт на будаўніцтва кватэры, такія вялізныя працэнты. А што, бальніцы ў нас нармальна фінансуюцца? За золатам на Алімпіядах ганяемся, а не кожны выпускнік школы можа працягнуць вучобу ва ўніверсітэце, інстытуце — бедным бацькам не па кішэні гадавая плата ў 13—14 мільёнаў рублёў за навучанне...

Ганна Пятроўна працягвала разважаць. І, здаецца, мела рэзон.

**Антон КАНДРАЦЕНКА.**

Да слова, такім заснежаным-зледзянелым, але шчаслівым яны бачылі яго не раз. Бывала, ледзь не да ночы стаялі Шашкелі з мінчукамі ля сцен Дома ўрада, дзе біліся, як ільвы, за новыя справядлівыя законы для людзей дэпутаты Вярхоўнага Савета ад апазіцыі БНФ. Цяжка, вельмі цяжка праходзіў кожны закон праз моцны супраціў камуністычнай большасці. Але народная падтрымка дала перамогу: прынялі-такі тады чаканыя законы на карысць пенсіянераў і ветэранаў вайны, чарнобыльцаў, афганцаў, рэпрэсаваных грамадзян і шмат каго іншых. (Праўда, у хуткім часе той, хто стаў прэзідэнтам, многае паадмяняў.)

Жанчына ўздыхае — і тут жа ўсміхаецца:

— Каб жа так, як нам з Пецем, было хораша ўсім-усім, то на зямлі даўно быў бы рай. Душой ён прагнуў дабра і прыгажосці, любові родным, блізкім і далёкім.

Прагнуў, каб уся Беларусь была кожнаму ўтульным, цёплым, родным Домам. У шырокім сэнсе слова, інакш не мог. Гэта да пытання аб тым, ці хопіць кожнаму для поўнага шчасця адзінага “святла” — чаркі ды скваркі. На вачах тая скварка робіцца ўсё больш праблематычнай, а чарка не ратуе ад гаркоты.

## Лес

— Неяк пайшла ў ягады далёка ад вёскі. А там — чырвоныя россыпы, так што захапілася і нічога больш не бачу. Выпадкова падымаю вочы: проста перада мной — і нада мной — раскідзістыя рогі вялізнага лася... Глядзіць на мяне, я на яго, уся аж здранцвела ад спалоху. Не варушуся, не крычу, толькі моўчкі “кажу” да яго: “Лосік, даражэнькі, ты такі магутны і прыгожы. Я цябе не пакрыўджу, і ты не чапай, ідзі сваёй дарогай”. І што вы думаеце? Звер крыху яшчэ пастаяў, “падумаў”, паглядзеў мне ў вочы і спакойна-велічна падаўся ў гушчар...

Аліна Канстанцінаўна і цяпер не ведае, ці то дзіва, ці Пецева “школа” выручыла. Ён жа настаўляў іх з дзяўчынкамі: у лесе нічога благога не рабіце і нічога не бойцеся, не лямантуйце калі што якое, не ламайце дроў. Звер не кінецца, калі не пачуе ад чалавека агрэсіі. “Тут — яго дом, а мы госці”.

— У лесе Пеця быў свой, любіў яго вельмі, чытаў як кнігу, разумеўся з ім. Ішоў асцярожна, каб не зламаць галінкі, не стаптаць травінкі, не парушыць спакой і цішыню. Дык, пэўна, за тое крамяныя баравічкі самі яму насустрач выбягалі, таямнічыя нетры адкрывалі свае дары. Гэта, падобна, яму ад дзеда майго перадалося. Той, бывала, пойдзе дрэва ссекчы па пільнай патрэбе, на замену струхлелага бервяна ў будыніне, а вяртаецца ні з чым. “Рука не паднялася жывую красу губіць”, — апраўдваўся ён перад дамашнімі.

Вось і Пятро Пятровіч быў упэўнены: толькі ў суладдзі з прыродай выжывае чалавек. Прыйдзе пагібель, калі ўсё падначаліць злачыннай сквапнасці і дурной нажыве.

— Еду нядаўна на сваю Мядзельшчыну, а ўзбоч дарогі — паваленыя красуні-бярозы, белыя пні, горы галля... І ў самім гушчары ўсё патаптана-панявечана, пляжацца ягаднікі, знікаюць грыбныя мясціны, — уздыхае гаспадыня. — Ды так у нас замест зялёнага салаўінага краю пустыня станецца альбо зусім канец свету! Ці думае хто аб гэтым там, наверсе? Гаспадары...

Так, спрадвеку лес — лёс і храм для беларуса, нават сучаснага гарадскога. Без “ляснога” светапогляду і светаадчування, без адухоўленага стаўлення да маці-зямлі самаўпэўнены дзікун з вагонам камп’ютараў такога наробіць (ужо нарабіў і працягвае рабіць) ва ўсіх сэнсах — гаспадарча-эканамічным, маральным, культурніцкім. Нездарма Уладзімір Караткевіч, сам заўзяты аматар лясных вандровак, бачыў у з’явах прыроды нейкую філасофскую субстанцыю, сімвал, знак чалавечага характару, учынкаў, натуры. Нездарма так удумна-ўрачыста пачынае ён сваю навелу “Кніганошы”.

*“У сасновым лесе — маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — душу д’яблу прадаваць.*

*Гэты лес быў яловы”.*

Прайшоў ты праз лес выпрабаванняў годна, як належыць — толькі тады ты чалавек...

Пятро Шашкель — прайшоў. І праз сасновы, і бярозавы, і дубовы. І праз самы выпрабавальны — яловы. Мы зараз, калі падумаць, у ім і апынуліся. Толькі не ўсе, як ён (і, на шчасце, не ён адзін), здалі свой галоўны экзамен на выдатна, хоць мо неяк і атрымалі залік з горам напалам. Дзякуй Богу, ёсць у каго вучыцца, каго браць сабе за прыклад.

Яшчэ з выказвання Алеся Мазырскага:

*“Гэты мужны чалавек, што ў самым малым узросце зведаў жудасныя выпрабаванні, якія не кожны дарослы перанёс бы, здолеў вытрываць усе ўдары лёсу і не зламацца. Да апошніх імгненняў на гэтым свеце заставаўся верны ідэалам Бацькаўшчыны, як мала хто іншы ненавідзеў здраду, хлусню, шчыра шанаваў продкаў. Проста быў Беларусам”.*

Развітальныя словы аб дарагім сябры даляцелі і ад Зянона і Галіны Пазьняк: *“Гэта быў чалавек абсалютна надзейны. Такіх не спакусяць ні словамі, ні долерамі, хоць бы абсыпалі з ног да галавы... На такіх людзях, аддадзеных сэрцам, трымаецца наша Айчына, наша ідэя і наша праца дзеля волі і шчасця Беларусі”.*

Такім не страшны пачварныя здані ў змрочным гушчары. Здані згінуць у промнях святла і праўды, бо па дарозе за такімі, як Пятро Пятровіч Шашкель і ягоныя сябры, пойдуць, разганяючы цемру, новыя і новыя людзі. Іх яшчэ не так многа. Але яны — проста Беларусы з ліцвінскім гартам. Як тая ціхмяная дзяўчына з Караткевічавага твора, якая пасля гібелі бацькі і брата ўпарта і не хаваючыся — ужо для сябе — ладзіць кораб кніганошы...

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ

## Сярод дызайнераў нашы — лепшыя!



*Гран-пры Міжнароднага конкурсу дызайнераў заваявала беларуска Марына Ленкавец.*

Месяц таму Марына Ленкавец адправілася ў Санкт-Пецярбург на Міжнародны конкурс дызайнераў Lime Fashion Convention і паказала, што з беларускімі спецыялістамі цяпер павінен лічыцца ўвесь свет моды. Уладальніца Гран-пры і права на бясплатны ўдзел у HOLIDAY Fashion Week EUROPE ў Балгарыі прызнаецца, што сама вельмі задаволена вынікам, хоць і ехала на конкурс толькі для таго, каб на людзей паглядзець і сябе паказаць.

Але журы настолькі ўразіла калекцыя “Атлантыда”, што дэбют Марыны атрымаўся вельмі яркім.

*“У мяне была мэта — сумясціць антычнае і футурызм,* — распавяла lady.tut.by малады дызайнер. — *Антычнасць прыцягвае мяне любоўю да прыгажосці, а футурызм — “вострымі” касмічнымі формамі”.*

Зараз Марына працуе над сваёй трэцяй калекцыяй. Яна прызнаецца, што на гэты раз акцэнтаваць увагу будзе на этнічных матывах. У цэнтры калекцыі апынуцца мех і пер’е, якія былі вельмі модныя гэтым летам.



ПОДЫУМ

## Самая прыгожая жонка — у наркабарона з Калумбіі?

*Днямі завяршыўся Міжнародны конкурс прыгажосці “Місіс Сусвет”. Беларуская ўдзельніца Наталля Трафімава, на жаль, засталася без тытула.*



Званне самай прыгожай жонкі і маці атрымала 26-гадовая калумбійка **Лайла Мартынез**. Як толькі конкурс завяршыўся, газеты апублікавалі скандальную інфармацыю аб жанчыне. Па словах калумбійскіх журналістаў, Мартынез перамагла толькі таму, што яе муж — наркабарон... Лайла ніяк не каменціруе гэтыя даныя і кажа, што сваю перамогу прысвячае сям’і і краіне.

Званне віцэ-місіс атрымала прадстаўніца ЗША. “Бронза” конкурсу дасталася ўраджэнцы Кеніі.

Беларуска **Наталля Трафімава** набралася новых уражанняў і завяла шмат знаёмстваў, але атрымаць тытул самай прыгожай не здолела. Магчыма, шчасце ўсміхнецца беларусцы, якая будзе прадстаўляць нашу краіну на конкурсе “Місіс Сусвет-2013” у Калумбіі.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

ШОУ-БИЗ

# Диана начинает и... выигрывает

*Белоруска Диана Морякова прорвалась в модельный бизнес США. Восемнадцатилетняя минчанка получила предложение быть лицом сети магазинов одежды Нью-Йорка “BlueFly”*



Самое важное в женской одежде — женщина, которая ее носит, утверждал великий Ив Сен-Лоран. Поэтому, какую бы “высокую” моду ни создавали дизайнеры, показать ее, успешно внедрить в жизнь может только очень красивая женщина, модель. Вот их и разыскивают по всему миру. Славянки, общеизвестно, занимают сейчас первые строчки в этом глобальном конкурсе красоты, а также суеты и тщеславия. Но — стоп, ирония! Как бы мы ни относились к модельному бизнесу, нельзя не согласиться с мудрым пересмешником Марком Твеном, который говорил: “Человека красит одежда. Голые люди имеют крайне малое влияние в обществе, а то и совсем никакого”. Так что, пока нам необходимо укрывать свое бренное тело, чтобы иметь возможность выходить из дома и разговаривать друг с другом, не будем свысока относиться к тем, кто это сделал (или, как юная Диана Морякова, пытается сделать) своей профессией.

**— Диана, как вы, девочка из семьи известного белорусского писателя Леонида Морякова, вообще замахнулись на профессию фотомодели? По идее, вам прямая дорога в университет, а затем в магистратуру.**

— А вот я с пяти лет смотрела канал “Fashion chanal”, и меня восхищала невероятная изящность и грациозность девушек, которые передвигались по подиуму, как королевы. Хотя мои внешние данные поначалу мне ничего не обещали на этом поприще. Напротив, в детстве я была гадким утенком, много болела. Одна больница за другой. А потом врачи поставили диагноз — прогрессирующий сколиоз третьей степени. Мне грозила инвалидность. Нужно было носить корсет. Это конструкция из пластмассы, по форме напоминающая кольчугу, которая корректирует осанку. Но носить в школу я ее не осмеливалась года два. Школа для меня была местом не столько учебы, сколько выживания. Уж очень одноклассников раздражала моя внешность. “Слишком высокая, слишком длинные ноги, слишком худая”, — тыкали в меня пальцем сверстники. Иногда били, выкидывали вещи в окно... И носить корсет было очень трудно: адская боль, порой до самого утра. Звонит будильник, пора вставать, а ты еще не успела заснуть из-за боли. Я старалась, выполняла все рекомендации врачей. Как говорится, работала на результат и через два года получила его! Сейчас у меня практически идеально ровная спина. “Можно в армию брать”, — даже пошутил мой врач.

**— Что ж, “армию” вы действительно пройдете — в модельном бизнесе. Вы представляете, какие трудности вас ожидают? И физические, и моральные. Этот путь усыпан розами. Но с очень острыми шипами.**

— Мне кажется, представляю. Теоретически я знаю об этом бизнесе почти все. Я зарегистрирована в нескольких престижных модельных агентствах: в украинском “Престиже”, в московском “Expomodel”, в канадском “Orange Model Management”. Я постоянно заполняю анкеты, рассылаю свое портфолио. Мне уже не раз предлагали контракты — в Китае, в Макао. Но родители не отпускали. А в США — согласились, потому что поступило серьезное предложение от серьезной фирмы. И это перспективно. На самом деле, если в Азию конкурс моделей тысяча человек на место (но и это 40 процентов будущего успеха), то в Европу и США в десять раз больше. Конкуренция атомная! И все девочки очень красивые. Бороться приходится среди лучших. Но зато твои шансы на дальнейшую карьеру гораздо выше. Практически стопроцентные.

**— Вы проходили какие-то курсы, занятия? Словом, где учились на фотомодель?**

— Училась я самостоятельно. А также под руководством Владимира Петрова, известного фотохудожника. Его студия самая большая в Минске. Это опытный профессионал, который читает тебя, как книгу. Ненатуральность, обман — главные враги фотомодели — он видит насквозь и убирает, выжигает каленым железом. У моих друзей по два высших образования — это теперь чуть ли не норма. А Петров — самоучка. Но я ему доверяю, как никому. Во время фотосессии Петров выжимает тебя до дна. И прикрикнет, и даже тапком бросить может, если не получается. Потом реально двое суток спишь. Но зато есть результат.

**— То есть образование у тебя пока среднее, минская школа за плечами. И, думаешь, этого в жизни будет достаточно?**

— Кроме средней школы я закончила музыкальную и художественную школы. Занималась рисованием на курсах в Академии художеств. А еще обожаю плавание, даже первый разряд получила. И хотя я сова по натуре, но до сих пор ради пары часов в бассейне рада вставать в 6 утра, чтобы попасть на льготный сеанс.

**— А эти кубки за что?**

— За шахматы! Я серьезно ими занималась до поры до времени. Постоянно просчитывать наперед комбинации стало образом жизни. И надо было выбирать. Потому что если шахматами занимаешься по многу часов в день — записываешь партии, играешь партии, тренируешь партии, и даже ночью, кажется, они не отпускают тебя, то это уже профессия. Но желание стать фотомоделью пересилило. Все-таки моя мечта — позировать перед камерой. Камера — это зеркало души. Ее нельзя обмануть. Хочется выделиться качественной работой. Главное, как Мэрилин Монро, быть от природы очень смелым человеком. Это покоряет. Или вот как супермодель мира Саша Пивоварова из России. Ее карьера началась с обыкновенного показа одежды “Prado”. В общем, моделью быть не научишься. Нужна природная уверенность.

**— Еще, может быть, артистизм, пластичность?**

— Огонь внутри.

**— Что ж, неплохой девиз для начала карьеры. Ты будешь делать ее под своей фамилией или возьмешь псевдоним?**

— Видимо, возьму псевдоним — Диана Королева. Мой папа — довольно известный писатель Леонид Моряков. Мне не хотелось бы жить даже в легкой тени его известности. Я всегда добиваюсь успеха сама.

**— А почему бы тебе, Диана, не попробовать свои силы в конкурсе “Мисс мира”?**

— Я не уважаю этот конкурс. Сейчас конкурс “Мисс мира” все больше и больше превращается в конкурс пластических хирургов.

**— У тебя есть дальние планы? Фотомодель — это ведь до 30—35, не так ли? А что дальше?**

— Я мечтаю стать телеведущей. На телевидении.

**— ?!**

— Если у тебя есть энтузиазм, ты можешь совершить все. Так говорил великий Генри Форд.

**Елена МОЛОЧКО.**

БЕЗ ГАЛЬШТУКА

*Спартсмен, якія заваяваў золата ў стральбе лежачы, прызнаўся “Народнай Волі”, чаму выкарыстоўвае патроны 30-гадовай “вытрымкі” і дзе будзе абмываць званне палкоўніка.*



### *Алімпійскі чэмпіён Сяргей МАРТЫНАЎ:*

## «Патроны — не каўбаса, тэрмін прыдатнасці неабмежаваны»

Залаты медаль Сяргея Мартынава быў першым у беларускім спісе лонданскай Алімпіяды-2012. Пасля трыумфу спартсмен абмовіўся, што перамогу прынесла старая форма і савецкія патроны. Гэты факт вельмі ўразіў заўзятараў: няўжо нельга забяспечыць нашага чэмпіёна новым абмундзіраваннем?!

*“Усім цікава пра патроны,* — усміхаючыся, распавёў Сяргей Мартынаў “Народнай Волі”. — *Так, страляю яшчэ савецкімі. Яны лепш за тыя, што выпускаюць за мяжой. Захаваўся пэўны запас.*

*Патроны — не каўбаса, тэрмін прыдатнасці неабмежаваны. Дзе захоўваюцца? У сейфе пад замком!”*

Спорту Мартынаў прысвяціў ужо больш за 32 гады і за гэты час паспеў тыдзень пазаймацца веславаннем, адзін дзень — гімнастыкай, а астатні час аддаў стральбе. І ўжо некалькі гадоў Мартынаў літаральна не здымае сваю любімую форму. Кажа, што яна вельмі зручная, хоць не аднойчы прапаноўвалі замену.

*“Адзін касцюм я толькі памераў і больш ніколі не апранаў,* — узгадаў алімпіец. — *І шылі ж форму пад мяне, але насіць яе не здолеў”.*

Канешне, алімпійскі п’едэстал скарыўся перад Сяргеем Мартынавым пасля доўгіх гадоў напружанай працы. Апошнія тры гады спартсмен нават закінуў сваю любімую справу — рыбалку. Затое зараз Сяргей збіраецца належным чынам выправіць гэтую несправядлівасць і адправіцца лавіць рыбу разам са сваім лепшым сябрам, якога заве проста Доктар. Спартсмен прызнаецца, што Доктар больш дасведчаны ў рыбнай лоўлі, яму часцей ўдаецца злавіць “сёе-тое”.

Седзячы на беразе ракі, Мартынаву будзе што абмеркаваць з сябрам. Напрыклад, званне палкоўніка, якое алімпіец атрымаў пасля спаборніцтваў. “Абмываць палкоўніка” будуць па ўсіх традыцыях — з абавязковым рытуалам выпівання шклянкі гарэлкі, у якую ўкінуты палкоўніцкія зорачкі.

Дарэчы, Мартынаву належыць не толькі новае званне. Спартсмен павінен атрымаць істотную прыбаўку да заробку і прызавыя. Колькі ж зарабляў чэмпіён да Гульняў?

*“Прыстойна”,* — прызнаўся нешматслоўны алімпіец.

Куды пойдуць заслужаныя грошы, спартсмен пакуль не думаў. Тым больш што выгаднае ўкладанне капіталу ў яго жыцці ўжо было. Год таму сям’я Мартынавых набыла лецішча ў Гарадзішчы. Сем сотак зямлі і невялікі домік цалкам прыдатныя для таго, каб жыць там на працягу ўсяго лета. Адзначым, што менавіта там родныя і блізкія назіралі за выступленнем Сяргея на Алімпіядзе.

*“Жонка ўвесь час выходзіла на кухню, бо занадта хвалявалася”*, — сказаў спартсмен.

Хваляванняў сапраўды было шмат, але не менш было і ўдзячнасці. Спецыяльна для Сяргея яго сям’я замовіла лімузін, які даставіў усіх дахаты.

*“Першы раз ездзіў у лімузіне*, — адзначыў алімпіец. — *Машына як машына. Толькі што доўгая такая...”*

А ля пад’езда спартсмена з шампанскім і феерверкамі чакалі суседзі. Адным словам, спаць леглі пасля трэцяй ночы...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ЗАЛАТАЯ РЫБКА

# Аляксандра Герасіменя думае аб кар’еры палітыка

*А яшчэ двойчы срэбраны прызёр алімпійскіх гульняў прызналася, што была б не супраць, каб федэрацыя плавання падарыла ёй... электрычны чайнік.*

Мянушка “Залатая рыбка” прычапілася для Аляксандры яшчэ ў 1999 годзе, калі на юнацкім першынстве яна заваявала адразу некалькі медалёў найвышэйшага гатунку. На сёлетніх алімпійскіх гульнях Саша ледзь-ледзь не заваявала золата, але аптымістычная прыгажуня ведае — усё наперадзе. У любым выпадку дома Аляксандру чакалі сваякі і натоўпы ўдзячных фанатаў.

*“Віншавалі і знаёмыя, і незнаёмыя,* — прызналася “Народнай Волі” дзяўчына. — *Нават і не ўзгадаю, хто канкрэтна. Дома адпачнуць не паспела, бо сябры прапанавалі паехаць на канцэрт Мадонны ў Маскву.*

*Шоу было цудоўным, але спявачка сапсавала нам настрой — спазнілася на дзве гадзіны. Нават для Мадонны гэта зашмат”.*

У музычным сэнсе Аляксандра дзяўчына не надта пераборлівая, і калі ёсць магчымасць адпачыць, то доўга яна не разважае. Зараз чэмпіёнка збіраецца на ўзбярэжжа Міжземнага мора, дзе марыць правесці канікулы. Дарэчы, чэмпіёнка не вельмі шануе “неспартыўнае” плаванне.

*“У мутную ваду я ўвогуле не заходжу, таму ў рэчках не плаваю,* — адкрыла сакрэт прыгажуня. — *Калі вада празрыстая, то магу зайсці паглыбей, але так, каб пальчыкамі ног дно адчуваць”.*

Заадно падчас адпачынку можна будзе набыць сабе некалькі пар абутку. Саша не ўтойвае, што стылёвы абутак — яе пункцік. На жаль, песціць сябе новымі парамі ў спартсменкі атрымліваецца нячаста. Скардзіцца: “*Няма куды ставіць*”.

Сапраўды, сваёй кватэры ў Герасімені няма, і жыве яна ў бацькавым доме. Кажа, што нават для медалёў там месца ў абрэз.

*“У мяне ёсць невялікі стэнд, але на ім вельмі цесна,* — усміхаецца Саша. — *У асноўным медалі вісяць на кубку. Баюся, што хутка ён перакуліцца. Галоўнае, каб не на сабаку...”*

Дзяўчына прызнаецца, што ёй было б вельмі прыемна, калі б гарадскія ўлады дапамаглі ёй атрымаць уласнае жыллё ў мінскіх раёнах “Уручча” ці “Усход”. Так будзе бліжэй да трэніровак, і дадатковыя дзве гадзіны яна зможа траціць на сон, а не на пераезды. Размовы аб кватэры з разраду мараў, Аляксандра не прагне дарагіх падарункаў.

*“Калі федэрацыя падорыць чайнік — добра!* — зазначыла Саша. — *У мяне якраз чайнік зламаўся...”*

Пры ўсёй сваёй сціпласці і аптымістычнасці Аляксандра Герасіменя ведае, чаго вартая перамога, і сама адчула, як важна, каб спартсмена падтрымлівалі. І зараз, і ў будучым яна збіраецца дапамагаць калегам. Саша прызналася “Народнай Волі”, што не супраць заняткаў палітыкай.

*“Чаму б і не?* — паціснула плячыма чэмпіёнка. — *Магчыма, калі-небудзь прыйдзе час...”*

Пры гэтым Герасіменя нікога не збіраецца вучыць жыццю. Прыгажуня, студэнтка і спартсменка ўсміхаецца і канстатуе:

*“Я не лічу, што маю нейкія надзвычайныя здольнасці, каб казаць, што трэба людзям. Я ведаю толькі тое, што трэба Сашы Герасімені”.*



**Марыя МАЛЕВІЧ.**

## Людзі і лічбы

*Трынаццаць медалёў — два залатыя, пяць сярэбраных і пяць бронзавых — заваявалі беларускія спартсмены на XXX летніх Алімпійскіх гульнях у Лондане (з улікам адабранага Дысцыплінарнай камісіяй МАК залатога медаля Надзеі Астапчук). Гэта горшы вынік за ўвесь час выступлення Беларусі самастойнай камандай.*

Апошнюю ўзнагароду ў заключны дзень Гульняў атрымала зборная па мастацкай гімнастыцы, якая заняла другое месца ў групавых практыкаваннях, саступіўшы толькі камандзе Расіі, піша БелаПАН.

Раней медалі заваявалі:

**"золата":** Сяргей Мартынаў (стральба кулявая, малакалiберная вінтоўка, 50 м), Вікторыя Азаранка і Максім Мірны (тэніс, змешаны разрад);

**"серабро"** — Аляксандра Герасіменя (плаванне, вольны стыль, 50 і 100 м), Андрэй і Аляксандр Багдановічы (веславанне на каноэ, двойка, 1000 м), Раман Петрушэнка і Вадзім Махнёў (веславанне на байдарках, двойка, 200 м).

**"бронза"** — Марына Шкерманкова (цяжкая атлетыка, да 69 кг), Ірына Кулеша (цяжкая атлетыка, да 75 кг), Любоў Чаркашына (мастацкая гімнастыка, індывідуальнае шматбор'е), Вікторыя Азаранка (тэніс, адзіночны разрад), Ірына Памелава, Надзея Папок, Вольга Худзенка і Марына Палтаран (веславанне на байдарках, чацвёрка, 500 м).

Па колькасці медалёў Беларусь раздзяліла 18-е месца з Казахстанам і Новай Зеландыяй. Беларускія чэмпіёны Алімпійскіх гульняў атрымаюць у якасці прэміяльных 150 тыс. долараў ЗША, сярэбраныя прызёры —- 75 тыс., бронзавыя — 50 тысяч.

На Алімпіядзе 1996 года ў Атланце (ЗША) беларускія спартсмены заваявалі 15 медалёў (1 залаты, 6 сярэбраных, 8 бронзавых), на Алімпіядзе-2000 у Сіднэі (Аўстралія) — 17 (3, 3, 11), на Алімпіядзе-2004 у Афінах (Грэцыя) — 14 (2, 5, 7), на Алімпіядзе-2008 у Пекіне (Кітай) — 19 (4, 5, 10).

На Гульнях у Лондане перад беларускімі спартсменамі была пастаўлена задача заваяваць 25 медалёў, у тым ліку пяць залатых.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**




# Выніковы медальны залік

*З 28 ліпеня па 12 жніўня на Алімпіядзе разыграны 302 камплекты ўзнагарод, якія атрымалі спартсмены 85 краін. Вашай увазе прапаноўваецца выніковы медальны залік:*

1. ЗША — 46 залатых, 29 сярэбраных, 29 бронзавых (усяго 104)
2. Кітай — 38, 27, 22 (87)
3. Вялікабрытанія — 29, 17, 19 (65)
4. Расія — 24, 25, 33 (82)
5. Паўднёвая Карэя — 13, 8, 7 (28)
6. Германія — 11, 19, 14 (44)
7. Францыя — 11, 11, 12 (34)
8. Італія — 8, 9, 11 (28)
9. Венгрыя — 8, 4, 5 (17)
10. Аўстралія — 7, 16, 12 (35)
11. Японія — 7, 14, 17 (38)
12. Казахстан — 7, 1, 5 (13)
13. Нідэрланды — 6, 6, 8 (20)
14. Украіна — 6, 5, 9 (20)
15. Куба — 5, 3, 6 (14)
16. Новая Зеландыя — 5, 3, 5 (13)
17. Іран — 4, 5, 3 (12)
18. Ямайка — 4, 4, 4 (12)
19. Чэхія — 4, 3, 3 (10)
20. КНДР — 4, 0, 2 (6)
21. Іспанія — 3, 10, 4 (17)
22. Бразілія — 3, 5, 9 (17)
**23. БЕЛАРУСЬ — 3, 5, 5 (13)** *
24. ПАР — 3, 2, 1 (6)
25. Эфіопія — 3, 1, 3 (7)
26. Харватыя — 3, 1, 2 (6)
27. Румынія — 2, 5, 2 (9)
28. Кенія — 2, 4, 5 (11)
29. Данія — 2, 4, 3 (9)
30. Азербайджан — 2, 2, 6 (10)
30. Польшча — 2, 2, 6 (10)
32. Турцыя — 2, 2, 1 (5)
33. Швейцарыя — 2, 2, 0 (4)
34. Літва — 2, 1, 2 (5)
35. Нарвегія — 2, 1, 1 (4)
36. Канада — 1, 5, 12 (18)
37. Швецыя — 1, 4, 3 (8)
38. Калумбія — 1, 3, 4 (8)
39. Грузія — 1, 3, 3 (7)
39. Мексіка — 1, 3, 3 (7)
41. Ірландыя — 1, 1, 3 (5)
42. Аргенціна — 1, 1, 2 (4)
42. Сербія — 1, 1, 2 (4)
42. Славенія — 1, 1, 2 (4)
45. Туніс — 1, 1, 1 (3)
46. Дамініканская Рэспубліка — 1, 1, 0 (2)
47. Трынідад і Табага — 1, 0, 3 (4)
47. Узбекістан — 1, 0, 3 (4)
49. Латвія — 1, 0, 1 (2)
50. Алжыр — 1, 0, 0 (1)
50. Багамскія астравы — 1, 0, 0 (1)
50. Венесуэла — 1, 0, 0 (1)
50. Грэнада — 1, 0, 0 (1)
50. Уганда — 1, 0, 0 (1)
55. Індыя — 0, 2, 4 (6)
56. Манголія — 0, 2, 3 (5)
57. Тайланд — 0, 2, 1 (3)
58. Егіпет — 0, 2, 0 (2)
59. Славакія — 0, 1, 3 (4)
60. Арменія — 0, 1, 2 (3)
60. Бельгія — 0, 1, 2 (3)
60. Фінляндыя — 0, 1, 2 (3)
63. Балгарыя — 0, 1, 1 (2)
63. Інданезія — 0, 1, 1 (2)
63. Малайзія — 0, 1, 1 (2)
62. Пуэрта-Рыка — 0, 1, 1 (2)
63. Тайвань — 0, 1, 1 (2)
63. Эстонія — 0, 1, 1 (2)
69. Батсвана — 0, 1, 0 (1)
69. Габон — 0, 1, 0 (1)
69. Гватэмала — 0, 1, 0 (1)
69. Кіпр — 0, 1, 0 (1)
69. Партугалія — 0, 1, 0 (1)
69. Чарнагорыя — 0, 1, 0 (1)
75. Грэцыя — 0, 0, 2 (2)
75. Катар — 0, 0, 2 (2)
75. Малдова — 0, 0, 2 (2)
75. Сінгапур — 0, 0, 2 (2)
79. Афганістан — 0, 0, 1 (1)
79. Бахрэйн — 0, 0, 1 (1)
79. Ганконг — 0, 0, 1 (1)
79. Кувейт — 0, 0, 1 (1)
79. Марока — 0, 0, 1 (1)
79. Саудаўская Аравія — 0, 0, 1 (1)
79. Таджыкістан — 0, 0, 1 (1)

* *З улікам медаля Надзеі Астапчук.*



ОТКРОВЕННО

## Александр ГРИГОРОВ: «К Олимпиаде нужно готовиться четыре года, а не год»

*Об итогах прошедшей Олимпиады "Народная Воля" беседует с экс-министром спорта и туризма Беларуси (ныне — руководителем Федерации гребли) Александром ГРИГОРОВЫМ.*

— Итоги, наверное, и без меня есть кому подводить, — говорит собеседник. — Будут разбираться правительство, руководитель Национального олимпийского комитета... Но лично для меня эта Олимпиада — очень неприятная ситуация для белорусского спорта. Если не сказать — трагедия.

**— Почему? Ведь те медали, которые были завоеваны, — это тоже достойный результат...**

— Я участвовал в подготовке белорусской команды ко всем Олимпийским играм, начиная с 1996 года. И всегда олимпийцы радовали. Но сейчас получается, что в Лондоне команда показала худший результат. Я предвидел всю эту ситуацию. В первую очередь потому, что группа сильных спортсменов по разным причинам не поехала на Игры. Это уже был сигнал. А что такое Олимпиада? Это как военные сражения. Должна быть стратегия, тактика, знание людей. Нужна корректировка всех административных и финансовых ресурсов на определенные виды спорта. Этого, как мне кажется, не произошло. Я всегда говорил: "Финансирование академической гребли упало на 45 процентов. Как можно так обращаться с видом спорта, который всегда приносил олимпийские медали?" Возможно, нечто подобное происходило и в легкой атлетике, и в борьбе. А в итоге мы получили то, что получили. У нас по сути только пять видов спорта выполнили свои обязательства — гребля на байдарках и каноэ, пулевая стрельба, плавание, теннис и художественная гимнастика. Это очень обидно.

**— В чем причина такого отката?**

— Мне кажется, одна из причин в том, что к управлению в спорте высших достижений пришли не совсем подготовленные люди. И в то же время за последние годы из Министерства спорта ушли многие профессионалы. Разве можно управлять там без опытных людей? Вот мы и пришли к плачевному результату, который напрашивался. Что у нас было сделано за последние два года? Ничего. Плыли по течению — и плыли. Даже с центрами олимпийской подготовки и резерва до конца не разобрались. Одни группами работают, другие — без групп, третьи — со сборными... О чем тогда говорить? Упала в полном объеме и дисциплинированность тренеров. Разве так можно?

**— Но ранее и министр спорта, и помощник главы государства по делам физкультуры и спорта заявляли, что со стороны государства было сделано все, чтобы спортсмены ни в чем не нуждались при подготовке.**

— Мне как-то неудобно выносить сор из избы, но я вынужден это делать, потому что скоро скажут, что олимпийская сборная Беларуси по академической гребле чуть ли не всю Олимпиаду провалила. Но вот факты. В свое время на канале в Заславле глава государства сказал, что нужно купить лодки. Так вот лодку для Гелах и Бичик купили за один день до старта в отборочных соревнованиях! Вы можете себе такое представить?! Девочки затем говорили: "Мы не можем ехать на этой лодке, потому что она не обкатанная, не настроенная". Пересели в старую лодку — не попали на Олимпиаду. Я скажу, что к Олимпийским играм нужно готовиться не год до Олимпиады, а четыре года. Похожая ситуация, насколько мне известно, была и у каноистов.

**— Белорусские борцы, которые в основном у нас представлены кавказцами, тоже ни одной медали не завоевали. Может, стоит уже больше обратить внимание на подготовку своих?**

— Понимаете, так уж повелось, что кавказские атлеты сильны в этом виде спорта и многие страны дают им гражданство, чтобы они защищали на соревнованиях их цвета. Другое дело, что и своих нужно подтягивать. Должно быть разумное сочетание. А то, что нет медалей, — это, конечно, грустно.

**— Насколько, на ваш взгляд, объективны были судьи на этой Олимпиаде?**

— Конечно, во многих видах спорта субъективность присутствовала. Есть подводные течения, и во многих случаях мы их знаем. В борьбе, боксе, художественной гимнастике моменты нечистоплотности присутствуют...

**Алесь СИВЫЙ.**

СКАНДАЛ



# Надежду Остапчук лишают золотой медали

*Международный олимпийский комитет (МОК) на своем официальном сайте объявил о самом громком допинговом скандале Олимпийских игр 2012 года, которые закрылись в Лондоне. По сообщению МОК, допинг-проба знаменитой белорусской легкоатлетки Надежды Остапчук, которую взяли 5 августа после победы в олимпийском турнире по толканию ядра, показала наличие в организме анаболического агента — метенолона.*

Дисциплинарная комиссия МОК в составе председателя Томаса Баха, Дениса Освальда и Франка Фредерикса приняла решение аннулировать результат Остапчук, лишить ее золотой медали и диплома, отозвать олимпийскую аккредитацию. Международной ассоциации легкоатлетических федераций рекомендовано дисквалифицировать Остапчук в соответствии с принятым антидопинговым регламентом.

Олимпийской чемпионкой 2012 года в толкании ядра МОК объявил Валери Адамс из Новой Зеландии (таким образом, она стала двукратной олимпийской чемпионкой). Россиянка Евгения Колодко поменяет бронзовую медаль на серебряную. А третьим призером Игр-2012 стала китаянка Гонь Лиджао.

— Это для меня просто шок! — прокомментировал ситуацию "Народной Воле" серебряный призер Олимпиады в Пекине **Вадим Девятовский**, которого за употребление допинга сначала тоже лишили награды Игр-2008, но затем в суде спортсмен доказал свою правоту. — Сейчас главное — не делать поспешных выводов. Если человек чувствует свою правоту, нужно идти до конца, отстаивая ее. Честное слово, этой новостью вы мне еще седых волос добавили...

**Алесь СИВЫЙ.**

## Надежда Остапчук: не представляю, как запрещенный препарат мог оказаться в моем организме

*Нашим коллегам из Naviny.by удалось дозвониться до Надежды Остапчук. По голосу олимпийской чемпионки нетрудно было понять, что она находится в полном смятении...*

**— Надежда, как вы узнали о решении МОК дисквалифицировать вас?**

— Мне позвонили из Министерства спорта, сказали, что какая-то проблема с допинг-пробой. Более детальной информации у меня до сих пор нет. Хотелось бы конкретнее узнать обо всем, но это я смогу сделать уже после возвращения нашей делегации из Лондона.

**— В официальном заявлении МОК говорится о том, что в двух ваших пробах был обнаружен запрещенный препарат метенолон. У вас есть догадки, как он мог попасть в ваш организм?**

— Не представляю, как это могло произойти. Мне объяснили, что подобный препарат выводится по полгода. Я сдавала 18 контролей, и ни один из них не показал ранее наличия этого препарата. И именно на Олимпиаде пробы показывают его! Не понимаю, откуда это могло взяться. Я не похожа на идиота, который едет на Игры и принимает такой препарат, который по-любому ловится! Тупость... Меня трясут контролями каждый месяц, каждую неделю...

**— Титул олимпийского чемпиона — это не только престиж, но и финансовые блага. Как думаете, государство выплатит вам положенные за золото 150 тысяч долларов?**

— Вы сейчас сказали о деньгах, а я о них даже не думала. Я просто хочу побороться за свою награду, которую я заработала своим трудом! Я работала, терпела столько, и так просто я ее отдавать не собираюсь! Деньги не главное... Мне главное сейчас очистить свою репутацию. Я столько лет выступаю, и никогда никаких претензий не было. И теперь на главном старте и еще после золота... Я не понимаю...

**— Надежда, на этой Олимпиаде судьи приняли несколько очень спорных решений в отношении белорусов, и всегда эти решения были в пользу наших соперников. Теперь еще и ваша история. Не связываете ли вы это с политическим аспектом?**

— К сожалению, вынуждена констатировать, что это так. Действительно, нам мстят... Или отыгрываются на нас... Не знаю, за что и почему... Но спорт должен быть спортом, он должен быть вне политики! Но других способов, наверное, отыграться на нас нет. То, что к нам судейство так повернулось, — приходится бороться с этим моментом. Не хотелось бы верить, что они такими подлыми путями просто нас выбрасывают...

**— Фактически вы стали вторым дисквалифицированным спортсменом в белорусской сборной. Ранее еще одному метателю — Ивану Тихону — было предложено отказаться от выступлений на Олимпиаде. Вы обсуждали эту ситуацию с Иваном?**

— Мы с Ваней не смогли пересечься. Это было несправедливое решение. Нет никаких правил, никаких законов так поступать. У них (*у МОК.* — **Naviny.by**) нет вообще ничего, из-за чего они могли отстранить Ваню от соревнований. Это из ряда вон: мы захотели — отстранили Ваню, мы захотели — вскрыли Ванину пробу! А как и где она хранилась?! И почему Ванину, почему не кого-то другого? Ваня у них выиграл после Пекина, Ваня их унизил, и теперь они с удовольствием просто на нас отрываются.

**— Не боитесь, что после проигрыша в суде Тихону и Девятовскому МОК больше не допустит такого, чего бы ему это ни стоило?**

— Один прецедент был, они теперь тысячу раз перестрахуются. У них же там огромные деньги замешаны. А мы маленькая страна всего лишь. Они сидят на больших мешках с деньгами и с удовольствием управляют чужими судьбами. Кто платит деньги, тот заказывает музыку.

**Александр ВАНКОВИЧ.**

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень...

Непрыкметна праляціць жнівень, і ў гарады вернуцца дачнікі, з адпачынкаў — рабочыя, служачыя, з канікулаў — студэнты...

Каб у верасні атрымліваць дахаты "Народную Волю", Вы можаце ў любы дзень зайсці на пошту і аформіць падпіску. Кошт на месяц — усяго 19.000 рублёў.

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

**«Народная Воля»**
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by**
**http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 13.08.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27500 экз. Заказ №3549.**